# Асушым папяровыя балоты. За жывую справу.

**„Трэба выжыць з кіраўніцтва доўгія, невыконваемыя пляны, выгнаць бясконкрэтнасьць у кіраўніцтве шляхам яшчэ большага ўцягненьня нізавога активу ў працу кіруючых органаў". (З рэзолюцыі апошняга пленуму ЦК КП(б)Б)**

## Супроць казёншчыны!

### (Па Віцебшчыне)

### Хваля плянаў, капля справы.

У доўгім, чырвоным корпусе фабрыкі «Дзьвіна» працуе 2.000 рабочых. Сярод іх шмат комсамольцаў.

На фабрыцы 7 цэхаў і ў кожным цэху — комсамольская ячэйка. Асабліва цікавая ячэйка № 7.

У яе плянах працы і да гэтага часу ёсьць такія старамодныя пункты, як «узмацніць», «паглыбіць», «наладзіць» і г. д. Між тым: сярод моладзі прыкмячаецца п'янка, хуліганства, панажоўшчына. Клюбу на фабрыцы няма, ёсьць юнсэкцыя, якая даўно сваю працу «захавала ў доўгую скрынку».

Як добра правесьці моладзі свой вольны час? Куды прылажыць энэргію? Як палепшыць працу юнсэкцыі?

Аб гэтым цэх'ячэйка № 7 і ня думае, бо... у пляне нічога няма...

Але вось што цікава: ячэйка правяла дзьве жывых справы;

1) высунула перад фабкомам і адміністрацыяй пытаньне **аб організацыі сталоўкі** для рабочых (фабком і адміністрацыя ўжо пашлі насустрэч);

2) організавала **радыё-гурток.** А ў пляне аб гэтым ёсьць што небудзь?

Таксама нічога няма!

Пашто-ж тады гэтыя самыя пляны, калі яны не жыцьцёвыя?..

Ячэйка ўжо над гэтым пытаньнем троху стала задумвацца... Можа што і выйдзе!

## У паперных балотах.

Безьлясісты, бедны Бешанковіцкі раён. Цягнуцца тарфяныя балоты, брудная пусташ...

Сумота!

**Шмат** хто **з сялян** Бешанковічскага раёну **пашлі-б на організацыю таварыстваў па тарфяных распрацоўках.**

— Няма лясоў, дык і «тарфяныя дровы» будуць добрыя...—можна пачуць усюды.

Што-ж ў гэтым напрамку зрабілі комсамольскія ячэйкі?

У плянах працы ячэек, аб гэтым нічога няма... А ў жыцьці?... у 2-х таварыствах, якія маюцца па раёну, комсамольцы не прымаюць удзелу...

Між тым, райком ніякіх указаньняў не дае...

Вось табе «і конкрэтнае, жывое кіраўніцтва!».

«Паперныя балоты — гэта звычайная хвароба яшчэ многіх нашых райкомаў.

Вось які «інструктыўны ліст на 2 месяцы» даслаў 2-гі Віцебскі райком усім сваім вытворчым ячэйкам:

> **Рыхтуйцеся, да:**
> 1) **Сьвяткаваньня гадавіны „Чырвонай арміі".**
> 2) **Сьвяткаваньня Міжнароднага жаночага дню.**
> 3) **Сьвяткаваньня гадавіны „Парыскай Комуны".**
> 4) **Сьвяткаваньня зьвяржэньня Самаўладзтва.**
> 5) ..........
> 6) .......... і г. д.

## „Шмат недахопаў і дасягненьняў"

Ды і як-жа райкомы могуць даваць указаньні ячэйкам, калі самы яны разрашаюць пытаньні «габінэтна», ня вучаць ячэйкі, **як** працаваць?

**Бачэйкаўская** ячэйка сумесна з хатай-чытальняй організавала радыё-прыёмнік. Колектыўна зьбіралі грошы, (па 2 р.)... І ў выніку за 500 рублёў купілі патрэбнае.

Цяпер уся вёска, дзякуючы комсамольскай ячэйцы, слухае па радыё концэрты, даклады... Хто ня сябр гэтага «радыётаварыства»—плаціць 20 капеек, з «сябра» бяруць 10 капеек.

Чаму-б райкому не заслухаць, «як ячэйка організавала гэтую справу» і перанесьці вопыт у іншыя ячэйкі?

Вось **Бікложанская** ячэйка організавала ў вёсцы коопэратыў, коопэрыравала насельніцтва, прыцягнула да коопэрацыі сваіх бацькоў. Чаму-б райкому ня вывучыць вопыт працы ў гэтай галіне? Райком адмяжаваўся наступным: заслухаў даклад ячэйкі наогул. А ў выніку, на паперцы пісаў: «Шмат дасягненьняў. але і шмат недахопаў».

## Жывыя справы

Вядома, некаторыя райкомы, ячэйкі ўжо ўзяліся за жывую, практычную працу, за конкрэтнае кіраўніцтва.

Вось комсамольскі колектыў заводу «Мэтпрам» № 3 — перад перавыбарамі свайго бюро добра падрыхтаваўся.

Для праверкі і вывучэньня працы колектыву была высунута камісія з радавых комсамольцаў цэх'ячэек.

Спачатку камісія ўважліва заслухала як праводзіць абгляд. Потым размяркавала паміж сабой абавязкі: хто вывучаў вытворчую працу, хто вучнёўства, кваліфыкацыю, хто культ-асьветную працу.

Хлапцы захапляліся працай і, дзякуючы гэтаму, абгляд даў добрыя вынікі.

А вось у Кузьняцоўскага райкамолу дык трэба навучыцца, як трэба «конкрэтна» кіраваць.

Ён, напрыклад, заслухаўшы даклады аб працы двух ячэек (там дзе праводзілася земляўпарадкаваньне) даў конкрэтныя заданьні: як падрыхтаваць сялянства да пераходу з хутароў на пасёлкі... як зьвязацца з землябудаўнікамі і як дапамагаць сельсавету і камітэту сялянскай узаемадапамогі сачыць за правільным размеркаваньнем зямлі.

Райком высунуў пытаньне аб організацыі комсамольскага сельска-гаспадарчага колектыву. І не хаваючы «справу у доўгую скрынку»—1) заслухаўшы доклад Райземаддзелу, атрымаў вучастак добрай зямлі, 2) даслаў лісты па ячэйках.

І хутка 15 хлапцоў згадзіліся пайсьці ў колектыў.

**Вось на гэтых прыкладах трэба нам вучыцца як рабіць жывую справу, як конкрэтна, жыва, кіраваць работай.**

С.



**З Віцебскіх матар'ялаў.**

## Пасялковыя організатары.

Комсамольцы **Струкачэўскай ячэйкі** (Кармянскага раёну) жывуць па пасёлках, па 2-3 у кожным, і таму цяжка праводзіць якую небудзь працу сярод вясковай моладзі. І бюро ячэйкі надта цяжка кіраваць сваймі комсамольцамі. Паўстала пытаньне: як лепш наладзіць кіраўніцтва, як лепш працаваць?

Каб вырашыць гэтае пытаньне, ячэйка, пры дапамозе Райкому, зрабіла наступнае:

На пасяджэньні бюро ячэйкі высунула больш моцных комсамольцаў, якім і даручалася правядзеньне грамадзкай і культурна-масавай працы ў пасёлках.

Узмацнілася кіраўніцтва комсамольцамі, палепшылася праца сярод моладзі пасёлкаў: апошняя ўжо мела магчымасьць прысутнічаць на чытках газэт, рознай літаратуры.

У выніку, можна сказаць, што ў ячэйках, якія знаходзяцца ў земляўпарадкаваных вёсках—праца пасялковых організатараў зьяўляецца жыцьцёвай формай кіраўніцтва сябрамі ячэйкі і сялянскай моладзьдзю наогул.

Трэба толькі больш наладзіць кіраўніцтва гэтымі організатарамі з боку бюро ячэек.

З. Чуманаў

## Як „кіруюць".

**(Малюнак з натуры).**

*Прыяжджае хто небудзь з раёну праверыць працу ячэйкі.*

*— Дзе тут сакратар ячэйкі жыве? пытае ў сялян...*

*— А вось у тым завулачку... пакажа рукой якая небудзь цётка.*

*Райкомавец адшукае сакратара, аб'явіць што прыехаў вывучыць,*



*інструкціраваць працу ячэйкі і за чашкай чаю, па гутаркам сакратара—„зробіць вынікі" вывучэньня.*

*— Як жа нам рабіць з комсамольцамі, якія п'юць самагон, ходзяць на вечарынкі, ня чытаюць газэт?—*

*пытае сакратар...*

*— Трэба наладзіць конкурс гарманістых, вось што!— вучыць райкомавец. Бачыў у „Чырвонай Зьмене" як Бабруйск конкурс на лепшага гарманістага наладзіў? Вось і ты карыстайся гэтым вопытам...*

*— А як-жа, калі гармоніка ў вёсцы няма?*

*— Тады ствары конкурс на лепшага пяўца і дэкляматара.*

*Бедны сакратар толькі вачыма вядзе ад зьдзіўленьня.*

*Гэта ня зусім звычайны але можа часты малюнак з нашай рэчаістасьці...*

*Дзякуючы такім адносінам да працы з боку райкомаў альбо асобных райкомаўцаў ячэйкі таксама робяць і ў сябе.*

*Вось, напрыклад, як у Бачэйкаўскай ячэйцы жывыя справы пралятаюць міма.*

*Слухалі даклад упаўнаважанага па батрацтву. Упаўнаважаны—слабы хлапец, не атрымлівае дапамогі з боку ячэйкі і сам нават ня ведаў, як пачаць працу.*

*— Ну якія будуць, таварышы, прапановы па дакладу?*

*— Прызнаць працу дрэннай.*

*— 11 батракоў няпісьменныя засталіся...*

*Прынялі рэзолюцыю і канцы ў ваду. Аб тым, як зьнішчыць гэтую няпісьменнасьць сярод батракоў—ячэйка і не паклапацілася.* А.

## Першыя крокі.

### Вопыт Ляхаўкі.

**Інструктарскія групы і камісіі дапамагаюць практычнаму кіраўніцтву**

На конкрэтнае кіраўніцтва працай асобных комсамольцаў — нашы ячэйкі і дагэтуль мала зьвяртаюць увагі.

Усё кіраўніцтва праяўляецца ў формальным заслухоўваньні справаздач, агульных рэзолюцый, без усялякіх паказаньняў без дапамогі ў працы.

**Добрыя крокі ў гэтым напрамку зрабіў Ляхаўскі Райкамол.**

«Ляхаўка» **практыкуе нарады** ячэек **па тыпах, па асобных галінах працы** і ўжо мае добры вопыт. Былі скліканы нарады экономпрацаўнікоў, апоргаў, працаўнікоў па шэфству. Нарады праходзяць вельмі жвава і ня толькі дапамагаюць у практычнай працы ячэек, але і дапамагаюць абменьвацца вопытам.

Організована таксама інструктарская група з 7-мі чалавек.

Цікава адзначыць тое, што ў гэтую групу ўцягнуты старыя комсамольцы, якія раней адхіляліся ад комсамольскай працы. Група ўжо абглядала працу аднэй ячэйкі і цяпер вывучае гаспадарчую працу 6-ці ячэек розных тыпаў.

Група працуе па заданьнях Райкому. Заданьні даюцца як можна падрабязговыя; акрамя об'ектаў абгляданьня (што трэба абглядаць) тут ёсьць і аб тым, у каго адшукаць матар'ялы, з кім матар'ялы ўзгадняць і г. д. Хутка група будзе вывучаць ячэйковы саюзны дзень.

Выконваць плян і вывучаць асобныя галіны працы—дапамагаюць райкому і камісіі, якія ўтвараюцца пры райкоме пэрыодычна.

Райком таксама высунуў перад ячэйкамі пытаньне аб скарыстоўваньні ў дапамогу бюро ячэек камісіённага мэтоду.

Гэта добрае мерапрыемства ячэйкі ўжо праводзяць, напрыклад: ячэйка ФЗВ скурнікаў перад справаздачай піонэрскага атраду высунула камісію для абгляданьня працы атраду і падрыхтоўцы вынікаў.

Вынікі былі вельмі практычныя.

Каб вакол мерапрыемстваў, (якія праводзяцца Райкомам) збудаваць грамадзкую думку прыцягнуць як можна больш зацікаўленых людзей, устаноў, прадпрыемстваў—комсамольская Ляхаўка практыкуе раённыя дэмонстрацыі, карнавалы (напрыклад, карнавал да перавыбараў гарсавету).

Акрамя ўсіх гэтых мерапрыемстваў, Райком мае яшчэ цэлы шэраг іншых, другарадных форм конкрэтнага кіраўніцтва: дапамога ў працы новаму активу з боку старога, сыстэматычныя гутаркі сакратароў ячэек з працаўнікамі ячэек, высоўваньне перад райкомам асобных пытаньняў ячэйковай працы і г. д.

Вось першыя крокі Ляхаўкі па правядзеньню конкрэтнага кіраўніцтва.

**П. Зэйфман.**

## Група інструктароў.

**(Менск, Гарадзкі райком.)**

Інструктарская група Райкому організавана каля 3-х тыдняў таму назад.

Склад групы падбіраўся з старога активу, які добра знаёмы з працай.

Перад пачаткам працы была склікана нарада інструктарскай групы, на якой добра абгаварылі плян працы.

За маленькі тэрмін свайго існаваньня інструкторская група ўжо правяла абсьледваньне ячэек агульна-адукацыйных курсаў і металістаў. Заканчваецца абсьледваньне ячэек 1-ай Дзяржаўнай друкарні, 2-ой друкарні, працколектываў гарбароў, хлебапякарань ЦРК і профшколы «Поліграф»

Вось у ячэйцы агульна-адукацыйных курсаў пры абсьледваньні выявілася, што сакратар ячэйкі ўсе дырэктывы Райкому хаваў у сябе ў кішэні. Ячэйка зусім ніякай працы не праводзіла.

У ячэйцы мэталістых выкрыта, што саюзны дзень не ўважліва падрыхтоўваецца; вядзецца слабая праца сярод рабочай моладзі, з прычыны чаго тэмп узросту ячэйкі за лік рабочай моладзі паменшыўся.

Інструктарская група паказала сваю жыцьцёвасьць.

Дзякуючы інструктарскай групе Райком цяпер больш знаём з працай ячеек і іх становішчам.

Райком мае магчымасьць праверць выкананьне дырэктыў, якія даюцца ячэйкам.

Р. Г.



**Ах вы пляны мае пляны,**
**Пляны старыя маі**
**Да чаго мае вы пляны**
**Усё райкомы давялі.**

## Супроць „усезнайства" і абломаўшчыны

### Вайна абломаўшчыне і казёншчыне.

Перагрузка, захапленьне організацыйнымі формамі працы—асноўнае зло, якое перашкаджае ў сучасны момант нашаму активу вучыцца.

Мы не заўсёды ўмеем будаваць сваю працу па азначанаму пляну. Ня рэдка пляны складаюцца для супакою совесьці, а потым кладуцца ў портфель да наступнага каляндарнага тэрміну.

Усё гэта часам зварачае наш апарат дрэнна зьбітую машыну, якая ледзь ледзь рухаецца і не дасьпявае за ўзрастаючымі запатрабаваньнямі масаў.

Задача комсамольскага активу зараз складаецца ў тым, каб паставіць наш апарат пад кантроль масаў, пад іх організаваны напор на ўсе яго недахопы, што патрабуе ад кожнага актыўнага працаўніка нашага саюзу яшчэ большай сувязі з комсамольскімі масамі, яшчэ большай адказнасьці перад імі аб сваёй штодзённай працы ў апараце саюзу.

Курс на спэцыялізацыю активу—адзіны верны шлях зараз у працы з комсамольскім активам.

Зусім недастаткова быць, прыкладна, спэцам па коопэратыўнай рабоце. Гэтага дасягнуць ня так ужо цяжка.

Куды цяжэй зрабіцца коопэратарам-комуністым, які-б ведаў політыку партыі ў гэтай справе, вучэньне Леніна аб коопэрацыі і робячым гэтыя тэорытычныя веды кіраўніцтвам для ўсей практычнай работы.

Курс на спэцыялізацыю патрабуе куды больш уважлівага кіраўніцтва активам у яго практычнай працы і аб'яднаньня нашага кадравага складу вакол камітэтаў.

Сыстэма нарад па асобным пытаньням працы (прадстаўнікоў ў коопэратыўныя органы, выбары ў саветы, працаўнікоў юнсэкцый і г. д.)—ўсе гэтае кола мерапрыемстваў, атрымаўшы шырокае распаўсюджваньне ў організацыях, павінна быць шырока выкарыстана ўсімі камітэтамі нашага саюзу.

Мала гэтага. Курс на спэцыялізацыю активу мяркуе ўстанаўленьне самай цеснай сувязі організацыі саюзу з спэцыялістымі «усіх родаў аружжа» і ня толькі маючымі «дыплём», але і асобных комсамольцаў, асобных беспартыйных хлапцоў, якія цікавяцца тэй ці іншай справай і добра яе ведаюць.

Майстра і высока-кваліфікаванага рабочага неабходна прыцягнуць на нарады па пытаньням індустрыяльнага, брыгаднага вучнёўства, школы ФЗВ і г. д., агронома і комсамольца культурнага гаспадара на вытворчыя сельска-гаспадарчыя нарады, коопэратара і комсамольца грамадзкага працаўніка—на нарады па коопэратыўнай працы, інжынэра і комсамольца—вынаходацу—для організацыі вытворча-тэхнічных гурткоў і г. д.

### Які тып актывістага нам патрэбен зараз

Ці ёсьць у нас зараз у саюзе тып актывістага, зусім адпавядаючага вялізарным задачам нашай працы.

Такіх зусім аформленых кадраў людзей мы, вядома, яшчэ ня маем.

Але гэтыя новыя людзі, новыя кадры комсамольскага активу надзвычайна хутка растуць у любой фабрычна-завадской, у любой вясковай ячэйцы нашага саюзу.

Гэта—лепшыя рабочыя ў цэху, лепшыя гаспадары ў вёсцы, цесна зьвязаныя з масамі рабоча-сялянскай моладзі, упарта працуючыя над сваей самаадукацыяй.

Але гэтаму ўзрастаючаму пласту не хапае культурнай трэніроўкі і навыкаў у працы. Гэтыя навыкі трэба гэтаму пласту даць, «бо нам патрэбен зараз такі псыхолёгічны тып, які ўладаў-бы добрымі ўласьцівасьцямі старой рускай інтэлігэнцыі ў сэнсе марксысцкай падрыхтоўкі і шырыні ахопу, але з амэрыканскай практычнай хваткай. Нам патрэбен марксызм плюс амэрыканізм».

Але для гэтага трэба мабілізаваць усю нашу энэргію.

Для гэтага трэба бязьлітасна ўскрываць свае недахопы, устанавіўшы ўзаемны кантроль і ўзаемнае падтрыманьне

Для гэтага трэба даць рашучы адпор «усёзнайству», комуністычнаму начотнічаству, вузкалобаму дзялячаству і казёншчыне.

**М. Цяцерын.**

